• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

21 лістапада 1996 г. чацвер, № 272 (23075)



# ЗВЯЗДА

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## «РЭФЕРЭНДУМ АДБУДЗЕЦЦА Ў РАМКАХ КАНСТЫТУЦЫІ І ЗАКОННАСЦІ»

«Ніякай размовы аб адмене рэферэндуму быць не можа. Рэферэндум адбудзецца ў рамках Канстытуцыі і законнасці». Аб гэтым заявіў 20 лістапада Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія прадстаўляюць розныя рэгіёны рэспублікі. Па просьбе парламентарыяў яна была запланавана напярэдадні, паколькі чакалася, што 20 лістапада Прэзідэнт сустрэнецца са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім і раскажа затым заканадаўцам аб шляхах пошуку кампрамісу паміж кіраўнікамі дзвюх галін улады. Аднак гутарка, ініцыіраваная кіраўніком парламента, так і не адбылася, паколькі Сямён Шарэцкі, які прыбыў у Адміністрацыю Прэзідэнта, павёў сябе некарэктна, спрабуючы пачаць перапалку з кіраўніком Адміністрацыі Міхаілам Мясніковічам, які знаходзіўся ў прыёмнай Прэзідэнта.

Такія паводзіны дзяржаўнага дзеяча ў сталым узросце цяжка назваць блазенствам, адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Таму ён расцаніў гэты інцыдэнт як распрацаваную загадзя тактыку, накіраваную на зрыў сустрэчы з Прэзідэнтам. Дзеянні спікера парламента, адзначыў Прэзідэнт, разыходзяцца са зробленымі раней Сямёнам Шарэцкім заявамі аб гатоўнасці кіраўніцтва Вярхоўнага Савета да кампрамісу і могуць сарваць пачаты дыялог па пошуку згоды.

Гаворачы аб рашэнні Канстытуцыйнага суда, які па прапанове групы дэпутатаў завёў справу аб імпічменце, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што адчувае сябе спакойна і ўпэўнена, паколькі ніякіх падстаў для адхілення яго ад пасады няма. Згодна з Канстытуцыяй, падпісаныя кіраўніком дзяржавы ўказы не могуць разглядацца ў якасці падставы для імпічменту. Таму Прэзідэнт, яго Адміністрацыя, урад працягваюць працаваць у тым жа ключы, што і раней, накіроўваючы свае намаганні на стабілізацыю грамадства і выхад з эканамічнага крызісу, адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Ён паведаміў, што праведзеная напярэдадні яго сустрэча са старшынёй Канстытуцыйнага суда Валерыем Ціхіняй паказала: ёсць узаемнае разуменне той сітуацыі, што складваецца ў краіне. Аб поўным узаемаразуменні і падтрымцы дзеянняў Прэзідэнта заявілі і члены Цэнтрвыбаркома, якія сустрэліся з Аляксандрам Лукашэнкам 20 лістапада.

(Заканчэнне на 8-й стар.)

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 472

**Аб вызваленні А.А.Саннікава ад пасады намесніка міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь**

Вызваліць Саннікава Андрэя Алегавіча ад пасады намесніка міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь па ўласнаму жаданню (арт.31 КЗаП Рэспублікі Беларусь).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

18 лістапада 1996 г., г.Мінск.

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 474

**Аб адстаўцы М.М.Чыгіра**

У адпаведнасці з пунктам 4 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прыняць адстаўку Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Чыгіра Міхаіла Мікалаевіча.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

18 лістапада 1996 г., г.Мінск.

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 475

**Аб назначэнні С.С.Лінга выконваючым абавязкі Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь**

Назначыць намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Лінга Сяргея Сцяпанавіча выконваючым абавязкі Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

18 лістапада 1996 г., г.Мінск.

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 476

**Аб вызваленні А.В.Саснова ад пасады міністра працы Рэспублікі Беларусь**

Вызваліць Саснова Аляксандра Віктаравіча ад пасады міністра працы Рэспублікі Беларусь па ўласнаму жаданню (арт.31 КЗаП Рэспублікі Беларусь).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

18 лістапада 1996 г., г.Мінск.

## ПРЭЗІДЭНТ І ЧЛЕНЫ ЦЭНТРВЫБАРКОМА АБМЕРКАВАЛІ СІТУАЦЫЮ Ў КРАІНЕ

Як кіраўнік дзяржавы і гарант Канстытуцыі, Прэзідэнт Беларусі не дапусціць ніякіх правакацыйных дзеянняў у адносінах да членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў. Аб гэтым Аляксандр Лукашэнка заявіў на сустрэчы з членамі Цэнтрвыбаркома, якая адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы 20 лістапада.

Як адзначыў Прэзідэнт, паводле паступіўшых звестак, парламент мае намер прыняць шэраг татальных спроб для таго, каб дэстабілізаваць сітуацыю ў Цэнтрвыбаркоме, у тым ліку адхіліць ад пасад шэраг адказных асоб. Прэзідэнт падкрэсліў, што адбываецца працэс галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме, і таму прыняцце Вярхоўным Саветам якіх-небудзь пастаноў або змяненняў у заканадаўства цяпер недапушчальнае.

У ходзе сустрэчы з Прэзідэнтам яе ўдзельнікі абмеркавалі сітуацыю, якая склалася ў дзяржаве, і праблемы, што стаяць перад усімі галінамі ўлады. Асаблівая ўвага была ўдзелена пытанням, якія датычаць непасрэднай дзейнасці камісіі па правядзенню галасавання грамадзян Беларусі на рэспубліканскім рэферэндуме, у тым ліку фінансаванню. Як паведаміў Аляксандр Лукашэнка, фінансаванне будзе ажыццяўляцца на тым узроўні, які неабходны для нармальнай работы Цэнтрвыбаркома. Акрамя таго, улічваючы вялікі аб'ём работы, якую выконваюць цяпер члены ўчастковых выбарчых камісій, аддадзена распараджэнне, каб для іх была захавана зарплата па месцы асноўнай работы.

Як адзначалася на сустрэчы, абмен думкамі паказаў, што погляды Прэзідэнта і членаў Цэнтрвыбаркома на сітуацыю ў краіне і на шляхі выхаду з крызісу супадаюць па ўсіх важнейшых пазіцыях. І ініцыятар рэферэндуму, і тыя, хто ажыццяўляе кантроль за ходам плебісцыту, маюць намер зрабіць усё неабходнае, каб волевыяўленне беларускага народа праходзіла ў спакойнай і дзелавой атмасферы.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

## ДЗЕЯННІ КІРАЎНІКА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РАЗЫХОДЗЯЦЦА З ЯГО ЗАЯВАМІ АБ ГАТОЎНАСЦІ ДА КАМПРАМІСАЎ

**20 лістапада па папярэдняй дамоўленасці павінна была адбыцца сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім. Кіраўнік дзяржавы згадзіўся на сустрэчу са спікерам парламента ў імя захавання грамадзянскага міру і спакою ў краіне.**

Аднак, прыбыўшы ў рэзідэнцыю Прэзідэнта, замест таго, каб сустрэцца з кіраўніком дзяржавы, у яго прыёмнай пан Шарэцкі ўстроіў істэрыку. У некарэктнай форме ён запатрабаваў адправіць назад дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія сабраліся ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы для сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам.

Гэтыя дзеянні С.Шарэцкага разыходзяцца з яго раней зробленымі заявамі аб гатоўнасці да кампрамісаў і могуць сарваць пачаты дыялог па пошуку згоды. Сваімі дзеяннямі ён даказаў асабістую незацікаўленасць ва ўрэгуляванні палітычнага крызісу, нежаданне працаваць на карысць беларускага народа, які выбраў яго.

Істэрыка і тупанне нагамі на сваіх калег-дэпутатаў наўрад ці дабавяць аўтарытэту кіраўніку Вярхоўнага Савета. У гэтай складанай абстаноўцы ад чалавека, які займае такую высокую дзяржаўную пасаду, патрабуецца больш адказны падыход да сваіх паводзінаў.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

## СУСТРЭЧА НА ВЫШЭЙШЫМ УЗРОЎНІ НЕ АДБЫЛАСЯ

**Кіраўнік беларускага парламента Сямён Шарэцкі адмовіўся ад сустрэчы з Прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам. Аб гэтым ён паведаміў раніцай 20 лістапада на брыфінгу ў Вярхоўным Савеце.**

Дамоўленасць аб сустрэчы, паводле слоў Сямёна Шарэцкага, была дасягнута напярэдадні ў яго гутарцы з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаілам Мясніковічам. Меркавалася, што перамовы кіраўніка парламента і Прэзідэнта адбудуцца 20 лістапада ў 10.00. Аднак, як адзначыў Сямён Шарэцкі, ён не пайшоў да Аляксандра Лукашэнкі, паколькі той, насуперак дамоўленасці, ва ўказаны час праводзіў кансультацыі з групай парламентарыяў. Такія дзеянні кіраўніка дзяржавы ён расцаніў як спробу сарваць дыялог дзвюх канфліктуючых галін улады.

Сямён Шарэцкі заявіў, што не пойдзе на сустрэчу з Прэзідэнтам, пакуль той не верне ў Вярхоўны Савет усіх дэпутатаў, якія засядаюць у яго рэзідэнцыі, паколькі іх адсутнасць зрывае работу парламента. Ён таксама паведаміў, што сёння адправіцца ў Смаленск для сустрэчы з кіраўнікамі расійскай Дзярждумы. Паводле яго меркавання, туды ж прыбудзе і Аляксандр Лукашэнка.

Ацаніўшы становішча ў краіне як вельмі напружанае, Сямён Шарэцкі назваў шляхі выйсця з крызісу. На яго думку, гэта адкліканне парламентам і Прэзідэнтам сваіх праектаў змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі, што выносяцца на рэферэндум, прыпыненне галасавання на рэферэндуме і аднаўленне Цэнтрвыбаркома.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПАЛІТЫЧНАЕ АБВАСТРЭННЕ Ў БЕЛАРУСІ Ў ЦЭНТРЫ ЎВАГІ НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ

**Нягледзячы на байкот дзейнасці заканадаўчага органа асобнымі дэпутатамі, пленарнае пасяджэнне сесіі ўчора ўсё ж адбылося.**

Але хоць пытанні, якія спачатку на ім абмяркоўваліся, былі тымі ж, што і на дзень раней, агульная атмасфера напружанасці заўважна спала. Беларускім дэпутатам нават удалося прыступіць да разгляду асобных законапраектаў. Трэба адзначыць, што быў адобраны ў першым чытанні Закон «Аб свабодным перамяшчэнні і выбары месца жыхарства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», чым фактычна зроблены першы крок да адмены інстытута прапіскі ў Рэспубліцы Беларусь. Гэтае рашэнне адначасова можна расцэньваць як значны крок і ў справе пашырэння свабод грамадзян.

У парадак дня было ўключана пытанне аб унясенні змен у састаў Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў. У прыватнасці, прадугледжвалася вызваленне ад займаемых пасад членаў ЦВК Ярмошынай і Кажуры, а таксама сакратара камісіі І. Ліхача. Аднак дэпутаты ўчора задаволілі толькі заяву аб адстаўцы сп. Кажуры, адклаўшы на няпэўны час разгляд іншых кадравых пытанняў. Дарэчы, Прэзідэнт Беларусі вельмі адмоўна ацаніў спробы парламента ўнесці змены ў састаў ЦВК і адзначыў, што не дапусціць гэтага. Няўдачай закончылася прапанова абмеркаваць папраўкі ў Закон аб прадпрыемствах, якія не падлягаюць прыватызацыі і раздзяржаўленню: ніводнага артыкула не ўдалося прыняць з-за адсутнасці ў зале вялікай колькасці дэпутатаў. У выніку гэтага на разгляд парламентарыяў быў прапанаваны менш спрэчны законапраект — «Аб рэкламе», абмеркаваннем якога і закончыліся ўчарашнія пленарныя пасяджэнні.

Беларускі парламент учора па-ранейшаму заставаўся эпіцэнтрам падзей, куды сцякалася інфармацыя аб развіцці канфлікту паміж галінамі ўлады ў рэспубліцы. Асаблівасцю гэтага процістаяння 20 лістапада стала рэакцыя на падзеі ў Беларусі нашых бліжэйшых суседзяў. Першай адгукнулася Вярхоўная Рада Украіны, выказаўшы ў прынятай напярэдадні заяве спадзяванне на мірнае вырашэнне канфлікту.

Занепакоенасць тым, што адбываецца ў Беларусі, выказаў Прэзідэнт Польшчы А. Квасьнеўскі. Ён адзначыў, што яго дзяржава не можа заставацца раўнадушнай да беларускай рэчаіснасці і праінфармаваў, што па ініцыятыве польскага боку рыхтуецца сумесная заява кіраўнікоў Польшчы, Літвы і Украіны адносна сітуацыі ў Беларусі. У ёй будзе выказвацца падтрымка ходу дэмакратычных працэсаў у Беларусі і заклік вырашыць канфлікт мірным шляхам. Не засталася ўбаку і Дзяржаўная Дума Расійскай Федэрацыі, якая заклікала парламент, Прэзідэнта і Канстытуцыйны суд нашай краіны праявіць добрую волю і сумеснымі намаганнямі знайсці правільнае рашэнне.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*Г. ЗЮГАНАЎ:*

### «Кіраўніцтва Беларусі загнала сітуацыю ў тупік»

Лідэр Расійскіх камуністаў Г. Зюганаў лічыць, што і Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, і Вярхоўны Савет «загналі сітуацыю ў тупік». Аб гэтым Г. Зюганаў заявіў на прэс-канферэнцыі ў сераду, падкрэсліўшы, што ён раней «спрабаваў пераканаць» і Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку, і Старшыню Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага «адклікаць свае Канстытуцыі».

Тое, што «пытанне аб Канстытуцыі не вырашаецца на рэферэндумах», на думку лідэра КПРФ, пацвярджаецца «драматычным вопытам сённяшняй Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі, якая будзе не дзеючай, а паміраючай, калі ў яе не ўнесці папраўкі».

Г. Зюганаў паведаміў, што з пачатку гэтага тыдня вёў перамовы з кіраўнікамі Беларусі, уключаючы А. Лукашэнку, пераконваючы іх сустрэцца ў сераду з кіраўнікамі расійскіх заканадаўчай і выканаўчай галін улады, бо, паводле яго пераканання, «Беларусь ідзе па слядах расійскай восені 1993 года».

**ІНТЭРФАКС.**

### СПРАВА АБ ІМПІЧМЕНЦЕ ПРЫНЯТА ДА РАЗГЛЯДУ

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь 19 лістапада прыняў рашэнне аб узбуджэнні справы аб адхіленні ад пасады Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі. Гэту працэдуру ініцыіравалі 75 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія паставілі свае подпісы пад дакументам, у якім кіраўнік дзяржавы абвінавачваецца ў парушэнні Асноўнага закона Беларусі.

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў, 20 лістапада адбудзецца пасяджэнне суда, на якім будуць абмеркаваны працэдурныя пытанні, што датычаць імпічменту.

**БЕЛТА.**

*МАЙСТРЫ*

## ШЛЯХ

### Няўжо фотакарэспандэнту «Звязды» Мікалаю АМЕЛЬЧАНКУ — 60 гадоў?

Не верыцца. Як і трыццаць гадоў таму, ён гатовы на ноч гледзячы выехаць па заданню рэдакцыі ў любую камандзіроўку, каб ужо з раніцы пачаць здымаць герояў сваіх рэпартажаў. І ў той жа дзень пакласці на стол рэдактару здымкі ў заўтрашні нумар. Упэўнены: не выканаць заданне для яго — трагедыя. Ён лічыць, што гэта — трагедыя для газеты. Але трагедый у яго журналісцкай практыцы не было.

Вялікая адказнасць у Мікалая Аляксеевіча за справу, якую ён робіць, бярэ пачатак, мяркую, з работы ў шахце. У падначаленні маладога майстра, нядаўняга выпускніка горнага тэхнікума, было больш як 50 чалавек. У абавязкі Мікалая Амельчанкі ўваходзіла не толькі добра арганізаваць работу, даць магчымасць людзям зарабіць, але і захаваць іх жыцці. Што, згадзіцеся, не кожнаму пад сілу. У яго сіл хапала. І розуму таксама.

Вы бачыце перад сабою здымак Мікалая Амельчанкі з акадэмікам Андрэем Дзмітрыевічам Сахаравым. Мы хацелі змясціць у сённяшнім нумары здымак аднаго Амельчанкі. Думалі, чалавек, які ўсё жыццё фатаграфуе іншых, а сам заўсёды застаецца за кадрам, мае права ў дзень юбілею на ўвагу з боку сваіх калег. Такога здымка, акрамя пашпартнага, мы не знайшлі. Знайшлі гэты.



(Заканчэнне на 3-й стар.)







# ШЛЯХ

(Заканчэнне. пачатак на 1-й стар.)

Я раскажу вам яго гісторыю. Мікалай Амельчанка паехаў па заданню рэдакцыі ў Маскву, на першы «перабудовачны» з'езд дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР. Акадэмік Сахараў пасля ссылкі ў горад Горкі перамог на выбарах. У той час гэта была сенсацыя. Сотні савецкіх і замежных журналістаў спецыяльна чакалі Сахарава, каб узяць у яго інтэрв'ю. Сахараў быў хворы і ветліва ўсім адмовіў. Не мог адмовіць Амельчанку. Гэты момант і выхапіў адзін з калег Мікалая Аляксеевіча. Інтэрв'ю з Сахаравым было апублікавана ў «Звяздзе». Падобных гісторый у жыцці юбіляра дзесяткі.

Ён фатаграфаваў Брэжнева і Гарбачова, Біла Клінтана і Ельцына, Гамзатава і Быкава, Лукашэнку і Кебіча... Але больш за ўсё яму падабаецца працаваць з простымі людзьмі. Яго фатаграфіі публікаваліся і публікуюцца ў «Праўде», «Известиях», «Комсомольской правде», «Огоньке», дэманстраваліся на дзесятках выставак. Але галоўнае — іх друкавала «Звязда». Іх бачылі і бачаць нашы чытачы. З дзесяткаў варыянтаў мы адбіралі лепшыя. За «Звяздой» было гэтае права (ледзь не сказаў: права першай шлюбнай ночы), і газета яго выкарыстоўвала. І, я ведаю, Мікалай Амельчанка гэтым ганарыўся і ганарыцца. Таму што «шлюб» яго са «Звяздой», як і з жонкай, быў шчаслівы, бо заключаны па вялікай любові. Ад якой нараджаюцца цудоўныя дзеці і цудоўныя здымкі.

**Міхаіл МІХАЕВІЧ.**





***Шукайце згоду. Іграйце адну мелодыю. Народ скажа вам «дзякуй».***







**Работы розных гадоў звяздоўскага фотакарэспандэнта Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

